ISSN 0700 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К.Каліноўскі*

**ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў.**

**ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Belarus War Veterans. Canada office: 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont., M4K 1C2. U.S. address: 9 River Rd., Highland Park, N.J., 08904, U.S.**

**Год 21** **Сакавік. 1995** **Нр. 1[77]**




*СТАРАДАЎНАЙ КРЫВІЦКАЙ ПАГОНІ НЕ РАЗЬБІЦЬ. НЯ СПЫНІЦЬ. НЯ СТРЫМАЦЬ* — *М.Багдановіч*

*Розныя рэваншысты з лагеру карычневых камунафашыстаў намагаюцца адбудаваць 'імпэрыю зла' а наш Беларускі Народ зноў загнаць у ярмо. Таму яны цяпер атакуюць нашую дзяржаўную сімволіку, мову, каб пасьля зруйнаваць і самую рэспубліку. Зьмяшчаем на гэтую тэму верш паэтэсы Надзеі Дземідовіч.*

## БАРОНІМ НАШУ СЬВЯТУЮ ПАГОНЮ

Баронім старажытны наш сімвал
Ад нападаў варожых нам сіл,
Бо ён нас у нядолі падтрымваў
Кожны з нас яго ў сэрцы насіў.

Разам з намі жыла ты, Пагоня,
У палоне, у турмах была. —
Хай лятуць нясупынныя коні,
Каб Пагоня наперад вяла!

Каб цябе чужакі не закрылі
І ня сьцерлі з запыленых кніг,
Не дазволім, пакуль мы жывыя,
Апаганіваць продкаў сваіх

Хай праменіцца сьцяг у аблоках
У паветры хай шоўкам шуршыць,
А Пагоня высока, высока
Хай нас вучыць змагацца і жыць.

Каб цябе не закрылі чужыя
Сімвалы з малатком і сярпом,
Мы грудзьмі цябе моцна прыкрыем
І ад іх, і ад сьцягаў з арлом!

Дык красуй нам навечна, Пагоня,
І лунайце ў паветры сьцягі
Хай наперад лятуць тыя коні!
Не патрэбны нам сімвал другі!

**Надзея Дземідовіч.** *ліпень. 1944. Менск-Калодзішчы*

---

## *БАЦЬКА "ІМПЭРЫІ ЗЛА" ПРА РАБОЎ*

"Никто не повинен в том, если он родился рабом; но раб, который не только чуждается стремлений к своей свободе, но оправдывает и прикрашивает свое рабство.... такой раб есть вызывающий законное чувство негодования, презрения и омерзения холуй и хам". *В.И.Ленин*

*Цытата ўзята з кнігі "Измена Родине". В. Рапапорта і Ю.Аляксеева.*

# ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ



Летась у хмарны верасьнёўскі дзень стаяў я перад гэтым трухлявым будынкам, які бачыце на здымцы. Трушчоба, гнілы дах, быццам цябе запрашала: пхні, павалюся! Гэта-ж драўляныя руіны калішняй школы ў Порплішчах — мястэчку, што на шляху з Докшыцаў у Глыбокае ляжыць з паўночнага боку чыгункі з Полацку ў Маладэчна.

Апошні раз быў я тут вясной 1943 году. За паўстагодзьдзя ў вольным сьвеце гэты школьны будынак нярэдка зьяўляўся ў маім уяўленьні як нейкая важная веха ў жыцьці. Школа, поўная дзіцячай гамонкі, родная мова, юнацтва, ускалосьсе беларускасьці ў школьніцтве — натхненьне буйнага росту.

Пасьля шасьцімесячных настаўніцкіх курсаў у Глыбокім, з правам навучаньня ў пачатковых школах, юныя настаўнікі й настаўніцы рупліва ўзяліся за працу. Між імі захавалася й колькі старэйшых, каторых "на крэсах" пакінула некалі "моцарствова Польска". Адылі галоўнай сілай былі мы — беларускія патрыёты, сьвядомыя таго, што здолеем нашым дзеткам перадаць-пераліць любоў да нашай шматпакутнай бацькаўшчыны, якая тады навокал гарэла й гінула пад ударам двух монстраў -тытанаў. У лясных раёнах "народныя мсьціўцы" палілі школы й мардавалі настаўнікаў. Каля Порплішчаў іх і заваду ня было. Калішняму саюзьніку Сталіна, "вялікай Германіі", не ўдалося яшчэ зрабіць Маскве той зьнішчальны "капут" і ейны "дранг нах Остэн" захрас недзе на ўсходзе. Амаль палова Беларусі цярпела пад ваеннай акупацыяй фашыстоўскай улады. Заходняя часьць, што называлася генэралкамісарыятам Вайсрутэніі, перадала пачатковыя школы ў беларускія рукі. Ніхто не загадваў нам акупантаў ці ведамага "фюрэра" хваліць. За няпоўныя тры гады пачатковыя школы далі вучням ня толькі асноўныя праграмныя веды але й сьведамасьць беларускасьці.

Сьціплая ўзнагарода за настаўніцкую працу — некалькі дзясяткаў акупацыйных марак і карыстаньне кавалкам зямлі. Садзі гародніну, сей што хочаш, жыві! Ніяк не разгонішся. Прывілееў ніякіх. Пяць нас працавала ў Порпліскай сямігодцы. Вера Ярашэвіч, адна зь пяці, ейны сын і дзьве дачкі жывуць цяпер у ваколіцы Ню Ёрку й сумежнага Ню Джэрзі. У Порплішчах я заўважыў што дом Ярашэвічаў, тут-жа цераз вуліцу ад той старой школы, захаваўся такім, як некалі быў. Я ў яго не заходзіў і ня пытаўся хто там цяпер жыве.

Праца настаўніка, калі ты яшчэ сямнаццаткі не дажыў, дала ў тыя часы пэўную самастойнасьць, грунт пад нагамі — незалежнасьць ад бацькі. Навокал — нікчэмная зьнішчальная вайна, усяго недахоп. Ды ў раёнах, дзе не гаспадарылі "народныя мсьціўцы", якіх тут часьцей называлі бальшавіцкіміляснымі бандытамі, жылося, як казалі сяляне, лепш чымся пад бальшавіцкім прыгонам у мірны час. Меншыя падаткі, свае людзі ў павеце й воласьці, ніхто цябе не цягнуў у калгасны прыгон. І беларускамоўныя школы мелі падтрымку народу, настаўнікі былі аб'ектам пашаны ў сваіх і мішэняй нянавісьці з боку яўных і скрытых ворагаў.

Нарадзілася пытаньне: а што-ж далей, куды і якім шляхам ісьці? Калішнія саюзьнікі, цяпер у змаганьні ня толькі за нашыя землі, нам жыць не дадуць, незалежнай рэспублікі Беларусі ня будзе. Абое рабое. Трэба нейкага іншага шляху шукаць, каб як-небудзь на захад... Наперадзе чакала Вільня й далёкія й цяжкія ваенныя дарогі. Удалося выківаць двух лютых дыктатараў. Дзякую Богу за помач і апеку! Давялося наапошку памагаць выкідаць фашыстоўскі "гэрэнфольк" — калішняга саюзьніка Сталіна, — "вялікую Германію" зь Італіі.

Гадамі назойліва дакучала цяжарнае пытаньне: а што было-б з табой, калі-б ня тая школа й настаўніцтва, калі-б ня Вільня й шлях на захад? Што здарылася з моладзяй твайго ўзросту, каторая сустракала "вызвольнікаў"? Бальшавіцкая мятла гэтых юнакоў-рэкрутаў, без належнай падрыхтоўкі, пагнала на "даёш Берлін!" У сваёй вёсцы сустрэў я двух ваенных вэтэранаў калекаў. Яны — пакалечаныя недабіткі з таго нашага "страчанага пакаленьня".

Летась, пазіраючы на руіны калішняга школьнага будынку, што так прынаджваў мяне настальгіяй па радзіме, нарэшце зразумеў: тут мае вытокі, тут нарадзілася, у абдымках патрыятызму, думка пра самастойнасьць самога сябе. Я ўжо ня жыву пад бацькавым загадам, мушу сам пра сябе пастанаўляць і мой сьвет наперадзе. Кажуць, што калі хочаш убачыць як высокая гара, мусіш ад яе адыйсьціся. Пазіраю на сваю гару-трушчобу, будынак калішняй сямігодкі з адлегласьці паўстагодзьдзя і ўяўленьнем пераношуся ў тую сваю дынамічную маладосьць, раньнюю юнацкую руплівасьць, каб памагчы дзеткам пазнаць сваё, роднае...

За гэным трухлявым будынкам пабудавалі новую школу. Ня ведаю калі тое было. Тут-жа побач дзьве сьвятыні — каталіцкая і праваслаўная, а на месцы калішняга валаснога будынку — помнік "вызвольнікам і партызанам". Мястэчка, відаць, жыве. Ды ў той верасьнёўскі дзень нікога навокал ня відаць. Магчыма што Докшыцкі саўгас пагнаў іх усіх выбіраць бульбу, каторай, кажуць, летняя засуха замінала добра вырасьці.

Новае пытаньне, народжанае паўночнаамэрыканскай практыкай: чаму-ж руіны гэтага драўлянага будынку дагэтуль ня зьнесьлі? Яны-ж — небясьпека! У нашай Канадзе Safety first — Насамперш бясьпека! — лёзунг на месцах працы і усюды! А тут... Няўжо гэтыя мясцовыя людзі порплліскія пра дзетак і пра сябе ня дбаюць? Дзеткі-ж могуць, у нейкія хованкі забаўляючыся, там пакалечыцца... Можа чакаюць порплліскія людзі цяперашнія на нейкую каманду зьверху ад "чырвоных памешчыкаў"? Яны-ж пэўне чулі, што "імпэрыя зла" ўжо зрабіла вялікі боўць і патанула, што цяпер паўстала незалежная рэспубліка Беларусь, якая ня зьбіраецца на павадку Масквы ў новы маскоўскі прыгон валачыцца.

Ці раз даводзілася параўноўваць свой лёс у вольнай заакіянскай краіне. дзе меў поўную вольнасьць творчага слова, зь лёсам суродзічаў, што цярпелі й гінулі ў сьвеце, дзе нарадзіліся наступныя радкі:

*Заўтра таксама ўзыйдзе сонца*
*і будуць людзі есьці й піць.*
*і ніхто із іх ня ўспомніць*
*як мы хацелі жыць...*

Марш на сьмерць "імпэрыяй зла" засуджаных. А зьверху — ілжывая прапаганда-барабаншчына пра тое, як там "дабротна" жывуць ды як нас, прыгнечаных, што пад капіталістычным ладам церпім, яны даганяюць і вось-вось ужо зараз перагоняць. Тымчасам ад нас зерне на хлеб мільёнамі тон купляюць. Такая "роднапартыйная" балбатня магла зьбянтэжыць тых, каторых пыльным мяшком па галовах стукнулі, ды ня нас — дзяцей з "раськіданых гнёздаў".

У Канадзе сустрэлі нас ды пачалі нам адразу фашысьціць "землякі" з "Фэдэрацыі рускіх канадцаў". а ім на помач — КГБ із сваім ворганам "За вяртаньне на радзіму". Пра нас, як асобную нацыю, Канада амаль нічога ня ведала. Калі пра цябе як Беларуса амаль ніхто тут ня ведае, калі ўжо й тут расьцягваюць нашых суродзічаў палякі й маскалі, дык уявіце сабе як нялёгка было гукаць, клікаць, зьбіраць, арганізаваць, пачынаючы з нуля... Масква і ейныя бэсэсэраўскія цівуны фашысьцілі сьведамым беларусам на ўсіх франтох ува ўсіх заходніх дэмакратычных краінах, асабліва-ж заядла абстрэльвалі тых з нас, што апынуліся на паўночнаамэрыканскім кантынэнце.

Літаратурная творчая праца вымагае дысцыпліны і пэўнай меры ізаляцыі. Працэс працы над "Гараваткай" даў мне цэннае і неабходнае сховішча, якое ў чужым сьвеце патоліла сардэчны боль па страчанай роднай зямлі, сваякох і суродзічах. За гэта ад мясцовых крыкуноў атрымаў мянушку "пісакі", "'разумнага дурня' што ў Канадзе Беларусь будуе."

Летась на бацькаўшчыне намагаўся знайсьці сьляды Гараваткі. Паўстагодзьдзя часу зьмяніла—зьлізала ейны рэльеф. Там-жа па ёй тапталіся й сьлядзілі людцы, што афішавалі сябе авангардам прагрэсу ўсяго чалавецтва. Датопаліся нарэшце да таго, што створаная імі "імпэрыя зла" зрабіла вялізны боўць і патанула. І як-жа мела яны трымацца?! Пры помачы рознай галоты й цівуноў каляніяльнага антынароднага рэжыму гналі калгасных і саўгасных прыгонных сялян на "войны за ўраджай". Гэты гон ды іншыя, інсьпіраваныя партыйнымі шэльмамі, трасцы, адбываліся пад гукі ваяўнічых агітбрыгадаў. Некалі ўраджайную глебу марылі ядахімікатамі... Мэльяратары высушылі суседняе балота, панішчылі прыгожыя дубровы. На іх месцы — іглічныя саджанцы. У сэрцах прыгоньнікаў антынародныя ўладары пасеялі нянавісьць да зямлі. Руйнаваліся "непэрспектыўныя вёскі".

Ці калі вернецца на гэту пакрыўджаную зямлю дбайлівы гаспадар? А ўсё-ж адгэтуль трэба пачынаць адбудову дзяржавы. Памятайце. што сказаў Вальтэр сваім гэроям "Кандзіды", што абыйшлі паўсьвету, у тым ліку й Эльдорада: апрацоўвайце свой агарод!

Перад помнікам бацьком на Верацейскім могільніку 4-га верасьня, у прысутнасьці радні й гасьцей з Глыбоцкага БНФ, для мяне ўзнагародай была малітва да Ўсявышняга":

**Госпадзе Ісусе Хрысьце, Божа наш, Божа ўсякай міласэрнасьці й дабротаў. Твая спагада бязьмерная і чалавекалюбства, быццам неспасьцігальная глыбіня марская. Прыходжу да Тваёй велічы са страхам і трапятаньнем і дзякую Табе за ўсе дабрадзействы, якімі Ты мяне абдарыў.**

**Асабліва дзякую Табе за тое, што перад тым, як паклікаць мяне да вечнай бацькаўшчыны, Ты даў мне зноў нагоду пабачыць маю зямную Бацькаўшчыну Беларусь. Прашу Цябе: прымі сёньня малітву пакорнага слугі Твайго, чые просьбы Ты міласэрна захацеў споўніць. Не забудзь мяне і ў будучыні, але зрабі, каб я ўдасканальваўся ў дабрадзейнасьцях і шчырай любові. Захавай нашую краіну ад усякіх няшчасьцяў і закалотаў, і даруй ёй Твой супакой. Дай беларускаму народу духа згоды, братняй любові і шчырай пабожнасьці, каб ён мог дастойна прыносіць падзяку й хвалу Табе, разам з Тваім спрадвечным Айцом і з усесьвятым, добрым і жыцьцядайным Тваім Духам. — праслаўленым у адной сутнасьці Богу. Амін.**

*К.Акула*

*Посьля напісаньня гэтага артыкулу даведаўся. што Вера Ярашэвіч летась памерла. Вечная Ёй памяць. а дзеткам — маё спачуваньне. К.Акула*

---

## *ЗА ШТО МЫ ПАКУТАВАЛІ?*

### *Успаміны Тамары Барсук (Лагун)*

Пра тое, як мы пакутавалі, цяпер пішуць розныя выданьні. Высылаю вам выразкі з розных газэт. Паэт Сяргей Грахоўскі й Антон Фурс пісалі ў 1992 г. На гэты час ужо ўсе рэабілітаваныя.

Якое-ж дачыненьне да ўсяго гэтага мела я? Вучылася тады ў СШ нр.1 у горадзе Глыбокае. У 1945-46 навучальным годзе да нас у клясу прыйшла Несьцяровіч Ліда. Я зь ёй пасябравала. Аднойчы, зімой 1946 г., я прыйшла да яе на кватэру і ўбачыла там двух маладых хлапцоў. Ліда неяк зьбянтэжылася, а потым прадставіла іх мне як дваюрадных братоў. Адзін зь іх

— Фурс Антон з глыбоцкага Педвучылішча, а другі — Асіпенка Мікола з Пастаў. Сабраліся яны ў Ліды (яна ўжо належала да Саюзу Беларускіх Патрыётаў) каб дамовіцца аб аб'яднаньні падпольных арганізацыяў.

Пра гэта я даведалася пасьля. У той вечар мы крыху пагаварылі, патанцавалі пад патэфон і я пайшла дамоў. На другі дзень Ліда мяне папярэдзіла, каб я нікому не казала што да яе дваюрадныя браты прыяжджалі. Мяне гэта вельмі зьдзівіла. Празь некалькі дзён, узяўшы зь мяне слова, што я буду маўчаць, Ліда расказала пра існаваньне падпольнай арганізацыі і яе задачы. Нікога зь сяброў арганізацыі, апроч Фурса й Асіпенкі, яна не называла. Я навет ня ведала, што сёстры Лена й Ларыса Барсук з нашай вёскі і Краснадубская Люся ды Табола Алег (я вучылася зь ім у Шкуньціках) належаць да СБП. Вось і ўся мая віна. Я ведала, што існуе падпольная арганізацыя "Саюз Беларускіх Патрыётаў". Ведала й маўчала, бо абяцала маўчаць. Нават сваім родным — маме, тату й Зіне не сказала нічога.

На другі 1946-47 школьны год Ліда Несьцяровіч пераехала ў Лужкі. Больш пра гэту арганізацыю я нічога ад нікога ня чула.

Дзесьці ў пачатку сакавіка 1947 году мяне з уроку выклікаў дырэктар школы, папярэдзіўшы, каб узяла з сабой партфэль. Увыйшоўшы ў кабінэт дырэктара і ўбачыўшы там двух чалавек з наганамі, я ўсё зразумела. Зрабілася страшна. Аўтаматчына адказвала на пытаньні, выконвала загады. У кабінэце дырэктара вытрасьлі ўсё з майго партфэлю, абшукалі мяне й павялі на маю кватэру. Там перавярнулі мой чамадан, пасьцелю, штосьці шукалі. Потым пад канвоем павялі мяне на станцыю, а калі надыйшоў цягнік павезьлі ў Паставы. Там ноччу ўпіхнулі мяне ў нейкі цёмны й вельмі халодны падвал. Я нічога тады там ня бачыла. Аказваецца, у гэным падвале ўжо была Краснадубская Людміла й іншыя падпольшчыкі. Было вельмі холадна, цёмна й страшна. Назаўтра павезьлі ў турму ў Менск.

У цёмнай, цеснай і сьмярдзючай камэры мяне й Мацук Лену — яна з пастаўскай групы, — пасадзілі яшчэ зь дзьвюма зьняволенымі. Шэрыя краты на вокнах, ліпучыя ад вільгаці сьцены, цэмэнтовая падлога, два іржавыя зялезныя ложкі, парашы ў куце. У гэнай клетцы прасядзелі мы тры месяцы.

Пачалі нас выклікаць на допыты, пад канвоем, залажыўшы рукі за сьпіну, вялі ў сьледчы пакой. Першы допыт прайшоў даволі спакойна. Я адказвала на пытаньні: хто, адкуль, чым займалася? Калі сьледчы спытаўся ў мяне пра падпольную арганізацыю я адказала: — нічога ня ведаю. Ён адразу павысіў голас і далей гаварыў на павышанай ноце.

На другі дзень ён паказаў мне пратакол допыту Ліды Несьцяровіч і тое месца, дзе было названа маё імя й прозьвішча. Пасыпаліся пытаньні: каго ведаю з падпольшчыкаў? дзе яны сустракаліся? чым займаліся? якую прапаганду вялі?

На гэткія пытаньні я нічога не магла адказаць бо запраўды нічога ня ведала. Пачалася лаянка, зьнявагі, брыдкаслоўе й пабоі. Біў ён навотмаш рукой па галаве. Часам ставіў да сьцяны з выцягнутымі ўверх рукамі. Апошні раз я ня вытрымала й падпісала пратакол. І да гэтага часу ня ведаю што там было напісана, бо я падпісала не прачытаўшы яго.

Допыты спыніліся. Час цягнуўся вельмі марудна, дні здаваліся месяцамі. Праз краты акна віднеўся невялікі кавалачак неба. За дзвярмі чуўся лязгат ключоў, зьняважлівыя выкрыкі надзіраццеляў. Тры разы ўдзень адкрывалася вакенца ў дзьвярох, празь якое ўсоўвалі пайку чорствага хлеба й баланду з гнілой салёнай рыбы. Увесь час хацелася есьці. Перадач ад родных ня прымалі. Мы-ж былі "ворагамі народу". Часам выводзілі нас на прагулку. Зноў, залажыўшы рукі за сьпіну, ішлі мы праз доўгі, вузкі, цёмны калідор у двор турмы і ў "клетку", сьцены якой былі зьбітыя з досак тры мэтры вышыёю. Нічога ня відаць, апроч тых дашчаных сьцен ды неба. "Прагулка" трывала 15 мінут, ды зноў у камэру. Здавалася, што пакутам ня будзе канца. Нас лічылі здраднікамі. А якой-жа Радзіме мы здрадзілі? За свае 15 год чатыры разы мянялася наша "радзіма".

20-га чэрвеня 1947 г. пачаўся суд. Судзіў Ваенны Трыбунал. Па вуліцах яшчэ неадбудаванага Менска ўзброеныя людзі вялі нас як сапраўдных злачынцаў. Людзі глядзелі на нас па-рознаму. Адны спачувалі: — Якія маладзенькія! А за што гэта іх? Іншыя крычалі: — Здраднікі! Судзіць іх па строгасьці закону!

А мы, пастроеныя па два, залажыўшы рукі за сьпіну, ішлі моўчкі.

Пачаўся суд. Мужна трымалі сябе ўсе падсудзімыя, упэўнена адстойвалі свае погляды. Гэта нават судзьдзяў з раўнавагі выводзіла. Нам не дазвалялі ня толькі размаўляць, але нават глядзець адзін на аднаго. Чатыры дні йшло судзілішча а 24-га чэрвеня 1947 г. вынесьлі вельмі суровы прыгавор. Двум кіраўнікам: Мядзеліцу Васілю і Асіпенку Міколу — расстрэл, пасьля заменены 25 гадамі зьняволеньня. Іншым — 20, 15, 10, 8 год няволі. Згодна артыкулу 73 УК БССР мне далі 3 гады няволі.

Што гэта за артыкул відаць з аднаго дакумэнту, каторы я атрымала з пракуратуры БССР калі зьвярнулася да іх з заявай аб рэабілітацыі. Вось яго тэкст: "*Прокуратура Белорусской ССР. 6.08.91. Нр 13•109-91. Сообщаю, что Прокурором БССР внесен протест в Верховный суд республики об отмене приговора военного трибунала войск МВД Минской обл., по которому Вы были осуждены за* **недоносительство.** *О принятом решении Верховный суд БССР сообщит.*

*Начальнок отдела* (*подпiсь*) *И.И.Суховерх.*

Згодна іхнай маралі, я павінна была пайсьці ў органы КДБ і данесьці на сваіх сяброў, стаць стукачом. Але-ж я ня гэтак выхаваная.

Краснадубская Люся атрымала 10 год няволі. Замужняя, цяжарная, адразу пасьля суду ў турэмным лазарэце ў яе нарадзіўся хлопчык. Пражыў ён некалькі месяцаў і памёр у Люсі на руках. Памёр ад голаду, бо Люся галадала і ў яе зьнікла малако. Дзе сына пахавалі маці не даведалася.

Пасьля прыгавору паслалі каго куды. Мяне й Лену Мацук (яна атрымала 10 год) завезьлі ў Архангельск. Самы страшны шлях — з Архангельску ў партовую Дудзінку — цягніком. Зьняволеных было вельмі многа, ішлі калёнай у трум параходу — жанчыны ў адзін, мужчыны ў іншы. Садзіліся на падлозе ў прытык адна да другой. Ня было ні нар ні табурэтак. Праз некалькі гадзін, калі рушыў параход, у большасьці з нас пачалася марская хвароба. Кружылася й ламалася ад болю ў мяне галава, ташніла, ванітавала. Навокал стогны й смурод. Хацелася піць, а вады не хапала. Ніхто ў трум не заходзіў. Бідоны з пахлёбкай і вадой спускалі на цапах. Да бідона з пахлёбкай ніхто амаль не падыходзіў, не хацелася ўставаць. Гэтак прайшло 10 дзён. Людзі аслаблі, некаторыя тут-жа ўміралі бо ніякай мэдыцынскай помачы ня было.

Прыбылі ў Дудзінку. Калі адкрылі дзьверы трума мы пачалі выпаўзаць на сьвежае й чыстае паветра. Мёр твых, і

## УСЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ МАШЫНА БАЯЛАСЯ

Перахаваньне праху Янкі Купалы адбывалася ў сакрэтнасьці ў духу сталіншчыны. Потайна з Масквы урну з прахам прывезьлі ў музэй паэта. Дзяжурылі адабраныя людзі й блізкія нябожчыка, калі так можна сказаць. Невялічкай купкай людзей было абмежавана жалобнае шэсьце. Па званках з адпаведных устаноў. Вянкі ад заводаў, арганізацый было дадзена ўказаньне на могілкі несьці з пэўнымі інтэрваламі, каб ня было "большого стечения народа". Уся дзяржаўная машына баялася праху паэта. А раптам што выбухне.

І якраз на час перапахаваньня рэдактар склікаў лятучку. Каб усе былі на мейсцы, пад наглядам. А потым ЦК давала яму прэмію імя Янкі Купалы. Дабіваўся. Хацеў. Дамогся. І яшчэ нядаўна Іван Шамякін скрышаўся, што ў вайну, калі хвалілі Янку Купалу, забыліся паклапаціцца, каб захаваць для Саюза пісьменьнікаў Беларусі мейсца дэпутата СССР. Было два а засталося адно.

*Рыгор Барадулін. "Маладосьць" нр. 10•94*

---

вельмі слабых вынасілі на насілках. Я не магла ісьці. Абапіраючыся на рукі, выпаўзла з трума і на чыстым паветры страціла прытомнасьць. Дапамагла мне, сама худзенькая й слабая, Лена Мацук. Дзякую ёй.

У Дудзінцы нас памылі, пераапранулі ў нейкія старыя але сухія "шмоткі" і вузкакалейкай павезьлі на поўнач. На нейкай маленькай станцыі, паміж Дудзінкай і Нарыльскам, мяне і дзьвюх зьняволеных высадзілі, а больш "злосных злачынцаў" — у іх ліку й Лену Мацук — павезьлі ў Нарыльск. На гэтай станцыі, што значылася нейкім нумарам, я, Шура й Зося (так звалі зьняволеных) прабылі да наступнай вясны. Расканваіраваныя, мы працавалі абходчыцамі на вузкакалейцы. Дзень і ноч, па графіку, хадзілі па тэй чыгунцы, падсыпалі пад шпалы гравій, убівалі балты. Навокал, як вокам сягнуць, суцэльная тундра. На гэтай станцыі жыў начальнік чыгункі з жонкай і маленькім сынам ды начальнік станцыі і трое зьняволеных.

Пасьля нашага прыезду неўзабаве наступіла палярная ноч. Маразы даходзілі часам да -50 Ц., бурзавеі, а на працу усёроўна трэба было йсьці. Вельмі цяжка было рашчышчаць сьнежныя гурбы. Колькі раз абмаражвалі рукі й твар, з працы вярталіся стомленыя. Добра, што нам выдзелілі нейкі пакойчык з трыма ложкамі, на якіх маглі адпачыць.

Вясною 1948 году нас перавезьлі ў Нарыльск і я трапіла ў лягер для палітычна зьняволеных дзе Лена Мацук працавала лабаранткай у КИПОМЦ (контроль измерительных приборов обжигово-металлургического цеха). Амаль паўгоду я працавала пры будаўніцтве, разгружала й падносіла цэглу, цэмантавы раствор. Лопаліся й крывавілі на руках мазылі. Ізноў памагла мне Лена. Яна папрасіла загадчыцу лабараторыі КИП, каб падала на мяне заяўку. Жанчына аказалася вельмі добрай, спагадлівай. Па некаторым часе я ўжо працавала зь Ленай у лабараторыі, вымярала запыленасьць у газалідводных трубах. Праца лёгкая, зь дзесяці чалавек адно дзьве мы зьняволеныя. Спагадлівыя людзі адносіліся да нас добра.

Праз тры гады я вярнулася на Радзіму, а Лена засталася ў Нарыльску. Далейшы мой лёс злажыўся даволі добра хаця працаваць было нялёгка бо сёй-той бачыў у мне "ворага народу". Вось і Люся Краснадубская не знайшла тут працы й вярнулася ў Казахстан дзе працавала настаўніцай пачатковай школы.

Прабачце за неакуратнасьць пісьма, мітусьлівасьць думак. Вельмі-ж ужо цяжкія ўспаміны.

## АМЭРЫКА НАРЭШЦЕ СУСТРАКАЕ РЭАЛЬНАСЬЦЬ

*Вашынгтон.* Праграмы сацыяльнага забясьпечаньня тут маюць мянушку "трэцяга шляху" амэрыканскай палітыкі. Парушэньне іх азначае раптоўную палітычную сьмерць. Як сябра Цэнтру Стратэгічных і Інтэрнацыянальных Студыяў, я кагадзе браў удзел у дыскусіях на тэму няўхільнага фінансавага крызісу. Прысутнічалі групы сэнатараў, кангрэсманаў і бюджэтныхураднікаў.

Выгляд надзвычайна дрэнны. У наступныя 18 гадоў 100% фэдэральнага бюджэту пойдзе на плату сацыяльнага забясьпечаньня, пэньсіяў, мэдычных праграмаў, фармарскіх субсыдыяў і вэлфару. Ані цэнта не астанецца на абарону, утрыманьне ўраду, сплаты працэнтаў ці іншае. Паглынаючае сацыяльнае забясьпечаньне — social spending— руйнуе Амэрыку.

Чаму гэта павінна турбаваць Канадыйцаў? Ды таму што, сітуацыя Канады тры разы горшая. Крах бюджэту, што здарыцца ў Амэрыцы ў 2013 годзе, насьпее ў Канадзе ўжо ў наступных некалькі гадох. Аттаўскі ўрад кажа Канадыйцам: "ня турбуйцеся, жывеце шчасьліва!", а Канада коціцца да галоўнага фінансавага крызісу. Нягледзячы на адважныя намаганьні Пола Мартына (міністра скарбу), выглядае, што ў Аттаве няма палітычнага жаданьня, каб зьменшыць сацыяльныя расходы перад аварыяй нацыянальнага цягніка. А ў Амэрыцы, наадварот, рэспубліканцы бяруцца рэдукаваць праграмы для сярэдняе клясы. Яны абмяркоўваюць як скасаваць вялізныя субсыдыі фармараў і забясьпечаньні для вэтэранаў, што не ваявалі; праектуюць рэдукцыю сацыяльнага забясьпечаньня для багатых і помач для даўжнікоў. Выглядае, што сьвятых кароў павядуць у бойню. Як і было прадбачана, усе зацікаўленыя зарганізаваныя групы паднялі вэрхал. І ўсё-ж, дзьве трэція ўсіх Амэрыканцаў згаджаюцца, каб помач для іх урад зьменшыў з умовай, што гэта будзе зроблена ў роўнай меры для ўсіх.

Як-жа такое магло здарыцца? Ды проста таму, што звычайны Амэрыканец зразумеў, што некантраляваныя выдаткі палітыкаў, непадтрыманыя адпаведнымі падаткамі руйнуюць эканоміку Амэрыкі. Шмат да зьмены поглядаў Амэрыканцаў спрычынілася радыё. Прэса, тэлевізія і Галівуд бесьперапынна трымалі лібэральную лінію Дэмакратычнай партыі. Амаль 70% амэрыканскіх журналістаў дэкляруюць сябе лібэральнымі Дэмакратамі. Дзіва няма, што галоўнае мідыя падтрымлівала лібэральную ідэю: больш выдаткаў, больш ураду, большыя фінансавых дэфіцытаў, больш Дэмакратаў.

Але зьявілася радыё-гамонка. Раптам Амэрыканцы пачулі палітычна няправільныя рэчы, што да таго часу былі пад блакадай іншага мідыя. Эфір загаманіў галасамі тысячаў Радыё Вольнай Амэрыкі. Чуліся й разьюшаныя галасы нянавісьці з правага боку, але бальшыня дазволіла Амэрыканцам пачуць тую праўду, якую раней у блакадзе трымала лібэральнае мідыя: урад збанкрутаваў, дэфіцытнае фінансаваньне руйнуе дзяржаву, спэцыяльныя інтарэсы абкрадаюць народны скарб. Дваццаць мільёнаў Амэрыканцаў пачулі Раш Лімбаг і іншых радыёвых рэваалюцыянераў, якія дазволілі ім пабачыць голага імпэратара Вашынгтону. Махлярства трэба спыніць.

Выбаршчыкі, якія нарэшце ўсьведамілі што нацыя апынулася ў небясьпечным фінансавым хаосе, сказалі Рэспубліканскай партыі: "Адбярыце ад іх Амэрыку"!

Нарэшце Рэспубліканцы й цэнтрысты Дэмакраты наважыліся рабіць тое, чаго раней палохаліся. Кажны палітык жахнуўся, памяркаваўшы што, перад наступнымі выбарамі ягоны апанэнт можа рэклямаваць яго на тэлевізіі наступнымі словамі :"вось той сукін сын, каторы зьліквідаваў тваё сацыяльнае забясьпечаньне!" Аднак, заахвочаныя Нют Гінгрычам (рэспубліканскім спікэрам Кангрэсу) адзін за другім палітыкі адважыліся зрабіць неабходнае: абрэзаць урадавыя расходы. Ці ў буры пратэстаў групаў спэцыяльных інтарэсаў удасца ім што зрабіць, пакажа будучыня. Галоўнае, пачатак ёсьць.

Канадыйцы, тымчасам, яшчэ не разумеюць сур'ёзнай небясьпекі ў якую завёў іх свой урад. Бальшыня канадыйскага мідыя так і асталося ў руках левых лібэралаў, якія жывуць пры ўрадавым карыце. СіБіСі трымаецца ўрадавай лініі, што ўсё ёсьць у парадку і сацыяльныя праграмы зьяўляюцца сэрцам Канады. Калі я нядаўна меў токшоў на СФРБ (у Тароньце) дык 19 з 20 слухачоў выказалі жаданьне, што Аттава павінна масава абрэзаць свае выдаткі на сацыяльныя праграмы. Магчыма, што палітычная рэвалюцыя нарэшце прыйдзе і ў Канаду.

Eric Margolis. Toronto Sun, 8. 12. 1994

## *ХТО ВАЯВАЎ А ХТО ГУЛЯЎ*

*Летась у Менску сьвяткавалі 50 год ад "вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Да помніка перамогі менская бальшавіцкая Вандэя не дапусьціла заслужаных гэрояў-вэтэранаў што йшлі туды разам зь Беларускім Народным Фронтам пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сьцягам. Вандэя намагаецца адбудаваць "імпэрыю зла", прысвойвае сабе ўсе здабычы перамогі над гітлераўскай Нямеччынай.*

*Летась у "Літ. і Маст." (23.9.94) зьявіўся перадрук артыкулу з расейскага часапісу "Родина". (нр.6-7.91).б — 'гутарка карэспандэнта часопісу І.Бехцерава з Віктарам Астаф'евым пад такою вось красамоўнаю назваю: "Спачатку снарады. пасьля людзі..." Гутарка ўражвае балючай. пранікліваі праўдай пра вайну, найперш пра тое. як, у якіх умовах даводзілася ваяваць савецкаму салдату з фашысцкімі захопнікамі."*

*Мяркуем. што гэты артыкул выкліча асаблівую цікавасьць у нашых вэтэранаў што ваявалі пад брытанскай камандай на заходнім і паўднёвым франтох. Цікавае параўнаньне...*(Рэд.)

**— Віктар Пятровіч. у дзясятым нумары нашага часапісу за мінулы год мы паспрабавалі ўзнавіць аб'ектыўную карціну таго, што адбывалася ў Расеі пасьля рэвалюцыі, паспрабавалі вызваліцца ад прывітых стэрэатыпаў у поглядзе на грамадзянскую вайну і яе прычыны. на мэты і дзеяньні процізмагарных бакоў. Цяпер хацелася-б гэтак-жа непрадузята пагглядзець і на Вялікую Айчынную. Але справа тут больш далікатная. Калі ў пэрыяд рэвалюцыі і грамадзянскай вайны роля бальшавіцкай партыі ўвогуле адназначная [шляхам падману, тэрору, гвалту ўсталяваць сваё панаваньне], дык у пэрыяд Вялікай Айчыннай у партыі і ў народу мэта аказалася быццам-бы адна.**

— Мэта, можа, і адна, ды сутнасьць розная. У адных — жыцьцё, уласная кроў, у другіх — падман. хітрыкі, агітацыя. Ды скуру яны проста ратавалі сваю — за кошт нас! А ўжо пасьля вайны, у сорак пятым. калі такую славу атрымалі, такую веліч, ашалелі проста: ня ведалі. колькі яшчэ народу ў лагеры загнаць, як узнагародзіць сябе, чым пакарміць яшчэ. Яны распараджаліся і лёсамі, і матар'яльнымі каштоўнасьцямі, і прыродай, і ўладай. Нездарма распараджаліся. А савецкая-ж улада ніколі камуністам не належала, іх ніколі ня выбіраў народ. Народ да гэтага аніякіх адносін ня меў, народ можна было толькі зьнішчыць, як быдла, араць на ім, пераганяць зь месца на месца, марыць голадам, падрываць пакаленьні. генацыд наладжваць. За гэта цяпер і расплачваемся. І зноў-такі мы, не яны...

Калі да пераправы праз Дняпро рыхтаваліся, там па беразе. па акопах, шнырылі ўсякія. ажно да генэралаў. А ўжо маёрыкаў сноўдалася, палкоўнікаў... Падыходзяць да якога-небудзь узбека ці рускага: давай. маўляў, уступай у партыю. у самую лепшую ў сьвеце, глядзіш, і сям'і дапаможам у выпадку чаго. "Ды Божа мой, пішы, вядома!" А чаго? Палова прадчувае ўжо, што да таго берагу не даплыве. Хай пішуць. можа, і праўда сям'і памогуць, дзецям... Ну, і пісалі. А той, хто здолеў запісаць паўсотні ці восемдзесят чалавек, абавязкова ордэн атрымліваў за гэта...

**— Ордэн?! Здагадваўся. што ня чыста. але каб такое...**

— Ну. вядома! А пасьля глядзіш: у хлопцаў гэтых. камуністаў толькі што сьпечаных, і якія пасьля ўсе валяліся паўраспранутыя на тым беразе, у кожнага на шыі крыжык. Выразаны з кансервавай бляшанкі. на нітачцы. Таму што на Бога адно спадзяваліся. а не на гэтых... Што яны, паперадзе яго пойдуць. ці што? Ды такое толькі ў кіно савецкім, у кніжках нашых!

А пераправа цераз Дняпро... Дваццаць пяць тысяч уваходзіць у ваду, а выходзіць, на тым баку, тры тысячы. максімум пяць. Праз пяць-шэсьць дзён усё гэта ўсплывае. Уяўляеце?

**—Але як усё-такі быць з гэтым: »Камуністычная партыя Савецкага Саюзу і яе роля ў арганізацыі разгрому намецка-фашысцкіх захопнікаў»? Гэта моцна засела ў нашы галовы... Хоць, калі складаеш адзін да аднаго разрозьненыя факты: вынішчэньне кіраўнічых кадраў. недаацэнка характару сучаснай вайны, ігнараваньне сігналаў аб падрыхтоўцы ваенных дзеяньняў, нябывалая колькасьць палонных, здрадніцкія адносіны да тых, што апынуліся за калючым дротам і на акупаванай тэрыторыі, катастрафічныя страты. фармаваньне цэлых армій і паліцыйных карпусоў зь ліку нашых грамадзян [чаго наогул нельга ўявіць, кажучы пра мінулыя войны], няўмелае кіраўніцтва — міжволі прыходзіш да высновы, што вайну мы выйгралі толькі цудам. І ўжо, прынамсі, не зважаючы на »арганізуючую і мабілізуючую сілу партыі».**

— Якая там "арганізуючая і мабілізуючая"! Калі-б намі кіравалі й камандавалі толькі палітаддзелы, мы-б прайгралі вайну за паўтара месяца. Яны і кіравалі — ажно да Смаленска. Там, у акружэньні, генэрал Лукін нешта накшталт пераварoту ўчыніў — ці то адхіліў іх, ці то ў атаку разам з усімі пагнаў. Вось ужо тут яны паваявалі!

Першыя нашы контрудары. першыя нашы посьпехі — гэта таму, што перасталі іх слухаць. Яны-ж панствавалі на фроньце — нядатныя ні на што, расьпешчаныя, у словах патанулыя. у самаўладстве, ва ўпэўненасьці. што могуць усім распараджацца. Мы на перадавой — сорак-пяцьдзясят чалавек у роце, скуры на далонях не засталося — працуем. а ў іх там дзеўкі — крамяныя такія... У нас начальнік палітаддзелу брыгады. які ні разу на перадавой ня быў. сем дзевак за вайну абпузаціў, вось ягоныя подзьвігі. Пасьля вайны ўжо, у Ленінградзе, пытаюся ў аднаго генэрала (ён сівы ўвесь і я сівы): "Аляксей Кандратавіч, а чаму гэта ў нас начальнік палітаддзелу на перадавой ня быў?" А ён адказвае:

"А на храна ён табе там, дурню, патрэбен? Ды гэта я ня пускаў яго туды. Ён-жа прыйдзе — яму трэба бліндаж капаць, ды ў тры накаты, а вас там пяцьдзясят чалавек заміж ста дваццаці. У вас-жа кароста на плячох, рукі да касьці сьцёртыя, а вы капаеце..." — "Ну. — кажу. — анучкай абгорнеш і капаеш". — "Вось. А яму ў тры накаты бліндаж ды двух вартавых у дадатак. А пасьля яшчэ ён вас і абжарэ, усе вашы запасы злопае..."

**— Тое, пра што вы распавядаеце, тым больш дзіўна, што для партыі ваеннае становішча — з яго казармамі, загадамі і іншай надзвычайшчынай — было як-бы натуральным асяроддзем бытаваньня... Што-ж здарылася?**

— Тое, што Сталін і яго гадаванцы бяздарна пачалі вайну, бяздарна яе правялі і бяздарна завяршылі, у выніку чаго народ падвергся неаднаўлянаму гвалту, як высьветлілася. Дарэчы, вы ведаеце лічбу нашых страт у Вялікай Айчыннай вайне?

**— Цяпер быццам-бы прынята называць 27 мільёнаў чалавек замест ранейшых 20 мільёнаў.**

— Не. 47 мільёнаў, мяркуюць дасьведчаныя людзі...Гэта-ж трэба! А як ваявалі?! Пагналі нас — і адразу: "Зьл вай паліва" Палі! Бамбі! І па чужых, і па сваіх, калі свае ў акружэньні... Вясной 44-га году, у самую вялікую слату, мы на сабе валаклі гарматы, на сабе валаклі машыны, акружаючы 1-ю танкавую армію. Перад гэтым білі мы яе, галубу, усю зіму. То мы яе акружаем, то яна нас. А колькі там было, унутры яе, "катлоў" нашых! Пад Камянец-Падольскім рэшткі арміі усё-такі прарваліся. Так, яны страцілі ўсе машыны, баявую тэхніку, масу людзей, але ядро арміі зьбераглі, і ўжо ў Польшчы яна нас сустрэла адмабілізаванай, адладжанай, як належыць у немцаў, ды й не пусьціла нас у Славакію. Спэцыяльна для зьнішчэньня 1-й танкавай арміі быў створаны 4-ы Украінскі фронт. Спэцыяльна! Гэта-ж толькі падумаць трэба, як мы раськідваліся. Фронт, штаб фронту... А хто там? Там доблесны Пятроў, любімы палкаводзец Уладзімера Карпава, камандаваў. Бяздарна! Дзьве арміі — 52-я і 18-я — складалі фронт, і гэтыя дзьве арміі павінны былі зьнішчыць адну. Зьнішчалі ўсю зіму, але так і ня зьнішчылі. І на Дуклінскім перавале яна спыніла нас, гэта значыць, 4-ы Украінскі фронт. Пасьля яму ўжо сталі дапамагаць левы фланг 1-га Украінскага і правы фланг 2-га Украінскага франтоў. Вялізарнейшая сіла — і нічога не зрабілі, паклалі 160 тысяч чалавек.

Так, камандваньне — горшага ня прыдумаеш. Але гэта яшчэ трэба памножыць на нашу Расею, на наша раздалбайства, нашу неабавязковасьць, нашу халатнасьць. Да нас-жа ў тыл прайсьці нямецкім разьведчыкам было раз плюнуць: як хацелі, так і шнырялі. Быў выпадак, калі з аднаго маста немцы сем чалавек "языкоў" узялі перад самым наступленьнем. Усюды войскі, тэхніка, людзі — плюнуць няма куды. І ўсе сьпяць... Колькі загадаў было розных: не спаць на перадавой, шныраць будуць — не прапускай! А як не прапускай? Ну, вось яны ідуць, вядро бульбы валакуць. "Стой б...!" "Чаго стой?" — "Ну стой!" — "Чаго стой, чаго ты?" — "Стой, кажу, нельга тут хадзіць!" — "Вось тваю маць... А хто сказаў, што нельга?" — "Стой, б.... назад!" — "Ды чаго? Бульбу ідзём варыць!" — "Нельга!" — "Зараз, курва, вінтар здыму, як усмалю — тут-жа лапы ўгору загнеш!"... Ну, прапусьціў гэтых, пасьля другія ідуць, каня параненага вядуць дабіваць, там трэція, чацьвёртыя, яшчэ і яшчэ. Уся перадавая снуе, корміцца, крадзе, шукае штосьці. Ува ўсіх свой клопат. Да пачатку сорак чацьвёртага году на перадавой і майстэрні працуюць, боты на заказ шыюць: адзін у танку ці ў самалёце скуру з крэсла зьдзёр, іншы ў афіцэра сядло сьцягнуў на падноскі, трэці шпількі робіць, чацьвёрты бярозу здабывае — боты-ж штука складаная. А ты за іх дзяжурыш, капаеш, то адно, то другое...

**— Але-ж перамаглі?**

— Таму што навучыліся разьлічваць толькі на сябе. І ўжо ў 44-м годзе на батарэі ў кожнай машыне 15-20 снарадаў пад усякім шмацьцём было прыхавана. Там-жа і паліва, і запчасткі, і паўпарсюка, там у старшыны анучы сьвежыя, мяшок круп, бульба. І ўсе пра гэта ведаюць, ды хрэн знойдуць, а знойдуць — ня выдадуць. І гэта ў той час, калі з 43-га году таварыш Сталін гуляў у парадак: кожны дзень данясеньне аб наяўнасьці паліва, снарадаў, людзей. Мяне заўсёды зьдзіўляла, што людзі ў сьпісе стаялі ў канцы. Спачатку снарады, паліва, а пасьтля ўжо людзі...

**— Знаёмы матыў... Але калі справаздачнасьць і усялякая пісаніна — а на фроньце, думаю, і больш складаныя справы былі — значыць, напэўна ліпа, адсябяціна, прыпіскі...**

— Не заўсёды. Прыстрэлка рэпераў — тут асаблівай ліпы няма. Але ў большасьці выпадкаў, вядома-ж, фількава грамата. "Ну, напішы што-небудзь" гэта камандзір пісару. А пісар: "Ды пайшлі яны..." — "Пішы, пішы!" Вось так... А снарады-ж хавалі й вазілі з сабой не ад добрага жыцьця. Вось той-жа камандзір батарэі. Выпхнулі яго на прамую наводку з парай снарадаў, лічы, голым. Праз 5 хвілін трах-бах — гармата коламі ўгору, разьлік загінуў. Значыць, трэба спадзявацца на сябе. Вось і пачыналі прыстасоўвацца. І хавалі, і прыпісвалі. Скажам, на прыстрэлку рэпераў даецца тры-чатыры снарады. Ён выдаткоўвае два. Хто яго праверыць? І па схеме ўсё правільна: 4 снарады.

Я разумею: таму, што ён скарыстаў не чатыры снарады, а два, стральба пасьля будзе не такой дакладнай і, магчыма, некалькі чалавек дарэмна загінуць. Але і яго зразумець можна. У яго гарматы, у яго асабовы склад, хлопцам капаць, а ў іх косьці вытыркнуліся: як у калгаснага каня. — трэба ім мяса паесьці, хлеба. Вось яны і возяць усё з сабой.

**— Атрымліваецца, людзей ставілі ў такія ўмовы, што ім, каб выжыць, трэба было хлусіць, выкручвацца, іншых пад кулі падстаўляць?**

— Вайна, вядома, разбэшчвае. Любая вайна. Але гвалтаваньне народу пачалося раней, яшчэ з часу калектывізацыі. Даведка трэба? Дай таму маселка. Упаўнаважанаму сунь, каб меншы падатак бралі. І дзяцей кудысьці ўладкаваць, у ФЗН там, таксама трэба даваць... Увесь час гэта купля-продаж ідзе.

І вось так, паступова, да гэтай улады і прыстасаваліся. Ня людзі, а ўжо ці не народ жулікам стаў, крыхаборам, злодзеем. А ў вайну, на фроньце, усё і выперла ва ўсёй красе!

Хоць дзівосныя былі выпадкі, зьдзіўляючыя! Нашы дэсантнікі, якія да немцаў у тыл высаджваліся, часта прывозілі адтуль, з акупаванай зямлі, грошы: гэта вясковыя жыхары, замардаваныя немцамі, апошнія капейкі аддавалі ў фонд абароны. Адзін поп прынёс да самалёту поўны мех грошай — сярод паствы назьбіраў ды свае прыклаў... Ну, папа пасьля, вядома, загрэблі: маўляў, служыў немцам. Так, ён пры немцах працаваў, але-ж служыў людзям — суцяшаў, адпяваў, веру падтрымліваў...

**— А як мянялася ваша асабістае ўспрыманьне вайны, яе ацэнка і асэнсаваньне — і першых месяцаў і ўсіх наступных, і, нарэшце, перамога, думаючы пра якую, ня ведаеш — радавацца ці плакаць.**

— Пра першыя месяцы я ведаю толькі з вуснаў іншых — я-ж з дваццаць чацьвёртага году, у сорак другім прызваўся, а на фронт трапіў вясной сорак трэцяга. На Бранскі фронт, які наступаў у фланг курска-белгарадскай групоўкі немцаў. Верагодна, задумваўся грандыёзны, як заўсёды, плян: акружыць, адсекчы... Але немцы пасьля Сталінграда, пасьля

6-й арміі, ня надта і паддаваліся, самі імкнуліся адсекчы, ім гэта лепей удавалася. Асабліва пад Харкавам, там яны шэсьць нашых арміяў акружылі, дзевятнаццаць генэралаў у палон узялі — бо тыя наступаюць ззаду, затое адступаюць сьпераду... Цяпер не публікуюць нічога пра гэта, усе крычаць: 6-я армія, 6-я армія! А скажаш ім: шэсьць арміяў, — нашы маршалы адразу: "Ну й што? Нашы арміі дробныя: што іхняя адна, што нашых шэсьць. I наогул усё гэта вымагае праверкі, удакладненьняў, пацьверджаньняў".. У нас заўсёды — ледзь ты кранешся нашых страт, тут-жа патрэбныя дакладныя зьвесткі. А вось калі яны, маршалы нашы, хлусяць-брэшуць, тады аніякіх і доказаў ня трэба. I вось паяўляецца галоўны ваяка на вайне — начальнік палітаддзела 18-й арміі, абібок і фарсун, і славіць сябе бяз сораму й сумленьня...

**— Віктар Пятровіч, трошкі раней, гаворачы пра нашы страты, вы назвалі 47 мільёнаў замест 27. Я ня стаў спрачацца — мы-ж не альпіністы, каб выхваляцца адужанымі вяршынямі. Ды і 27 мільёнаў — гэта страшэнная лічба, і 20 мільёнаў — таксама. Але-ж гэта толькі загінуўшых. А колькі калек, колькі маральна скалечаных, звар'яцелых, памерлых ад вайны, але пасьля перамогі, колькі тых, што не вярнуліся на Бацькаўшчыну, колькі рэпрэсаваных за неасьцярожнае слова й чужыя грахі? Тут лічба будзе куды больш крутая! I яе нельга супаставіць са стратамі Нямеччыны, якая ваявала на ўсе чатыры бакі сьвету: на захадзе і на ўсходзе, у Нарвэгіі і ў Афрыцы, якая высылала падводныя лодкі да амэрыканскага кантынэнту. Такія страты ня толькі ад нездавальняючага камандаваньня, яны — сьведчаньне якасна іншых адносін да народу, да чалавека наогул...**

— А сельскія жыхары, асабліва ўдовы, над якімі пасьля перамогі проста расправу ўчынялі: не дазваляючы ім выбрацца з абезмужчыненых сёл, забіраючы ў іх усё, ажно да апошняй бульбіны, да зярнятка, ведаючы, што гэта умярцьвіць сёлы. Што, настолькі не ставала розуму, каб зразумець гэта? Ды яны ўжо пры мне пачалі здыхаць, вёскі, я-ж доўга працаваў у газэце, езьдзіў, бачыў! У гэтым сэньсе Гітлер можа служыць дакорам нашым правіцелям. Але, ён распраўляўся з камуністамі, як і Сталін з апазыцыяй, зрэшты, аднак, ён ніколі не чапаў свайго народу — наадварот, клапаціўся пра ягонае ўмацаваньне, праслаўляў яго, абагачаў. У Нямеччыне шанавалі жыцьцё й дастатак. А адносіны да народу ў нас... Ну, якія адносіны ў мясьніка да жывёліны?

Працяг будзе



### Сьв. Пам. Яўхім Скурат

памёр 24.XII. 1994 г. у веку 86 гадоў, у Бэлэвіл, Антарыё, Канада. Нар. у вёсцы Палесьсе на Дзісеншчыне, здабыў дактарат у парыскім унівэрсытэце. Падчас Другой сусьветнай вайны выкладаў на настаўніцкіх курсах у Глыбокім а пасьля быў Генэральным інспэктарам беларускіх школаў у Генэралкамісарыяце Беларусі пад нямецкай акупацыяй.

Нашы спачуваньні ягонай радні.

**Летась у сьнежні ў Менскім выд. »Мастацкая Літаратура» выйшла з друку кніга-раман**

## ЗМАГАРНЫЯ ДАРОГІ
### Кастуся Акулы

*У цьвёрдай вокладцы, 576 бачынаў, з прадмовай выдатнага беларускага гісторыка й пісьменьніка Ул. Арлова, вокладку рысаваў мастак А.І.Цароў. Акулава кніга выйшла ў сэрыі "Мастацкай Літаратуры"* **»Галасы беларускага замежжа».**

У анатацыі ад выд. чытаем: "Раман вядомага пісьменьніка беларускага замежжа Кастуся Акулы прысьвечаны лёсу Беларусі і Беларусаў у гады Другой сусьветнай вайны, віхура якой на паўстагодзьдзя разлучыла аўтара з Бацькаўшчынай. Камусьці яго погляды і ацэнкі могуць здавацца спрэчнымі, але ў любым выпадку чытачу будзе цікава пазнаёміцца са сьведчаньнямі чалавека, што бачыў вайну знутры і заслужыў за барацьбу з гітлераўцамі баявыя ўзнагароды".

Першае выданьне "Змагарных Дарогаў" (Таронта-Мюнхэн 1962 г.)
у бальшыні апрабавалі чытачы беларускага замежжа як адзін з выдатных твораў нашай літаратуры. За гэны раман цівуны на ўслугах КГБ фашысьцілі аўтару на працягу дзясяткаў гадоў.

У Беларусі кнігу замаўляйце ў кнігарнях. У ЗША, Канадзе й іншых дэмакратычных краінах кніга каштуе 30 даляраў зь перасылкай. Замаўляць у аўтара на адрас: K.Akula. 57 Riverdale Ave., Toronto, Ontario, M4K 1C2

*Падзяка*

Усім, што прыслалі мне віншаваньні летась на ўгодкі нараджэньня, шчыра дзякую. К.Акула

**Памылка друку**

У папярэднім, 76-м нумары "Зважай", на бачыне 5-й замяж **Касновіч**павінна быць **Касмовіч.**

### ПРОКША МНОГА НАМ НАФАШЫСЬЦІЎ

9 сьнежня ў Менску памёр Л.Прокша. Нашы суродзічы ў дыяспары ведалі Прокшу-агента КГБ, бальшавіцкага цівуна, які нарабіў многа шкоды Беларусам на эміграцыі, каторыя змагаліся за вызваленьне Беларусі з маскоўска-бальшавіцкае няволі. Найбольш Прокша фашысьціў сваімі нягеглымі фэльетонамі перадавым дзеячом беларускае эміграцыі, якія выкрывалі расейска- маскоўскі генацыд у "імпэрыі зла", асабліва-ж у запрыгоненай маскалямі Беларусі. Прокша-ж і навуковец: нават імя мясцовага таронцкага, калішняга рэдактара "Вестника", перакруціў: гл. "Энцыкл. гісторыі Беларусі", бач. 88, дзе ён напісаў "Акулевіч Рыгор"... Такога прозьвішча і імя **Георгий Окулевич** *ніколі ня ўжываў.*

### ФОНД »ЗВАЖАЙ»

Да канца студзеня сёлета на "Зважай" прыслана: В.Акавіты (з продажы) — 9.50 дал., др. Міласевіч — 9.50. Вольга Качан — 50.00. М.Тулейка (продаж) — 27.00. др. Л.Трусэвіч — 67.00. А.Маркевіч — 15.00. Юля Андрусышын — 20.00. Н.Жызьнеўскі — 13.00. К.Вайцяхоўскі — 21.00. К.Мярляк — 20.00. Я.Каваленка (продаж) — 20.00. М.Раецкі — 30.73.

Разам — 325.73 дал. Усім ахвярадаўцам шчырае дзякуй.